06892


# ŠLACH BIEŁARUSKAHA STUDENTA

DADATAK DA „ŠLACHU MOŁADZI“.

Redaḫuje Redakcyjnaja Kaleḫija: J. Jaroška, V. Jermałkovič, St. Miadoŭski, Č. Najdziuk i U. Paňko.

№ 2. Vilnia, Kastryčnik 1938 h. Hod I.


## Працай і верай пераможам!

(На пачатак 1938-39 акадэміцкага году).

З пачаткам кожнага школьнага году прыбывае ў унівэрсытэцкія муры вялікая грамада новаўступаючай студэнцкай моладзі. Новыя абставіны і асяродзьдзе, новая праца і заданьні чакаюць гэты малады нарыбак. Унівэрсытэцкія аўлі, выкладовыя залі, працоўні запаўняюцца моладзьдзю — ажываюць. У гэтай вялікай новаўступаючай грамадзе многа ёсьць і беларусаў — гадунцоў беларускай і польскіх гімназіяў. Надыходзячыя заданьні, праца зьвязаная з студыямі, ахапляе ўсю ўвагу. Выклады, сэмінарыйныя практыкаваньні, упарадкаваньне розных фармальнасьцяў — гэта першыя турботы новаўступаючага.

Але гэта толькі пачатак — першы крок маладога студэнта. Цэлае жыцьцё студэнта, яго натугі і імкненьні не агранічваюцца толькі да апанаваньня фаховае веды. Перад ім высоўваюцца так-жа і іншыя заданьні, вымагаючыя доўгай мазольнай працы: — пашырэньне свайго агульнага гарызонту, пазнаньне акружаючых зьявішчаў, праца над выпрацаваньнем сябе на запраўды дарослага грамадзка і палітычна чалавека, з акрэсьленым паглядам, з цьвёрдым пераканаваньнем, сьведамага сваіх абавязкаў і заданьняў перад сваім народам. Здабыцьцё агульнага разьвіцьця зьяўляецца неабходнай патрэбай, без якой немагчымая ніякая грамадзкая праца.

Беларускую моладзь, якой, паміма ўсіх перашкодаў, удалося паступіць у вышэйшую школу, чакае жорсткае, цяжкое жыцьцё і трудныя, вымагаючыя вялікіх натугаў, заданьні. Нашая моладзь — гэта сыны вёскі, эканамічнае палажэньне каторай аж надта добра ўсім ведамае. Цяжкія матарыяльныя варункі, з якімі спатыкаецца беларускі студэнт ад першых дзён сваіх студыяў, а таксама іншыя об'ектыўныя мамэнты з прычыны нашай нацыянальнасьці, робяць на яго прыгнятаючае ўражаньне. Усе гэтыя труднасьці ставяць нашую моладзь у крытычнае палажэньне, прыводзяць часта да расчараваньня. Слабейшыя нават зыходзяць з правільнае дарогі, пачынаюць блукацца па розных крутых дарожках і сьцежачках, каб толькі знайсьці нейкі выхад з гэтай сытуацыі. Гэткі абраз мы бачылі ў мінулых гадох, такім ён зьяўляецца і сяньня.

Здавалася-б, запраўды — палажэньне беларускага студэнта зьяўляецца бязвыхадным, што ён прысуджаны на нейкую блуканіну, што ён расьцярушыцца, загіне ў масе моладзі іншых нацыянальнасьцяў.

Але гэткае дапушчэньне памылковае. У запраўднасьці нашае палажэньне не прадстаўляецца аж такім крытычным, бязвыхадным. Новауступаючая на вышэйшыя школы беларуская моладзь не зьяўляецца такой адасобленай, ня ёсьць прысуджанай на бесканечнае блуканьне ў адзіноцтве па бездарожжы. Мы маем багатую гісторыю беларускага студэнцкага жыцьця, маем свае слаўныя традыцыі, сьветлыя ідэалы. Маем свае студэнцкія арганізацыі: Беларускі Студэнцкі Саюз, Таварыства Прыяцеляў „Беларусаведы“. Ёсьць-жа нас ня так ужо мала. Беларускія-ж студэнцкія арганізацыі ведамыя ўжо на міжнароднай арэне студэнцкага жыцьця. Прадстаўнікі беларускага студэнцтва бяруць удзел у міжнародных студэнцкіх зьездах, кангрэсах, знаёмячы сьвет з беларускай праблемай і пазнаючы жыцьцё іншых народаў.

Шлях беларускага студэнта ёсьць простым, бяз ніякіх заломаў. Працерабілі і вытапталі яго лепшыя сыны нашага сярмяжнага народу, змагаючыся за яго лепшае заўтра; ён відны для ўсіх, у каго тліцца агонёк любові для свайго роднага краю, свайго Народу, свае нацыянальнае беларускае культуры. Што-раз большай групай, што-раз лепш сцэмэнтаванай грамадой, з моцнай верай у сэрцы ідзе па ім вернае свайму краю беларускае студэнцтва. Шляхам гэтым ёсьць праца для дабра свайго народу. На шлях гэты павінны накіроўваць свае крокі новаўступаючыя беларускія студэнты.

Ня трэба пужацца розных нявыгодаў, якія можам спаткаць на сваёй дарозе, ня трэба слухаць словаў нашых ворагаў, якія хочуць нас застрашыць, здэмаралізаваць, накіраваць у процілеглы варожы для нас бок.

Вялікія заданьні, якія стаяць перад нашым студэнцтвам, вымагаюць ад яго вялікага падгатаваньня. Здабыць-жа падгатаваньне такое можна толькі пасьля доўгае і мазольнае над сабой працы, біручы жывы удзел у сваіх беларускіх студэнцкіх арганізацыях, каторыя зьяўляюцца школай грамадзкага выпрацаваньня. На нас — студэнцкую моладзь, — як прадстаўнікоў маладой гэнэрацыі, зьвернены вочы ўсяго Беларускага Народу. Мы зьяўляемся надзеяй яго лепшае будучыні.

У абліччы сяньняшняга цяжкога палажэньня Беларусаў, мы — студэнцкая моладзь — мусім у сэрцах сваіх урачыста прырачы, што будзем годнымі контынуатарамі народна-грамадзкае беларускае працы, пачатае піонэрамі нашага адраджэнскага руху, што доўг перад народам, узложаны на нас мы выканаем. Мы, маладняк, поўныя энтузыязму і энэргіі, мусім з пачаткам школьнага году ўзяцца з удвоенай натугай за працу дзеля здабыцьця веды, асьветы і за працу дзеля палепшаньня быту нашага Беларускага Народу, павялічваючы рады беларускіх працаўнікоў.

Праца і моцная вера пераможа ўсё!...

Я. Яр—ка.

# Biełaruskaja prablema i polskija studenty

*(Z vakacyjnych uražańniaŭ).*

Sioletnija vakacyi pravioŭ ja ŭ adnej z najpryhažejšych miascovaściaŭ Polščy, siarod studenckaj moładzi — pradstaŭnikoŭ z usich amal vyšejšych polskich škołaŭ. U tavaryskim sužyćci z kalehami, badaj vyklučna palakami, možna było satknucca z roznymi typami, z pradstaŭnikami roznych arhanizacyjaŭ, roznych palityčnych kirunkaŭ i pahladaŭ. Pry ŭsialakich nahodach daviedvalisia maje novyja znajomyja, što ja biełarus. U adnych heta vyklikała ździŭleńnie, u druhich niezadavaleńnie, navat złość, u inšych indyferentnaść, a ŭ niekatorych achvotu bližej paznajomicca, padyskutavać. Z hetymi apošnimi lohka pačynałasia hutarka ab Biełarusach nahuł, i ab sučasnym biełaruskim adradženskim ruchu ŭ asobnaści. U takich hutarkach spatkała mianie poŭnaja ihnorancyja biełaruskaj prablemy. Usie, biaz vyniatku, z jakimi tolki mieŭ mahčymaść pahutaryć, mieli mutnaje paniaćcie ab Biełarusach. Asabliva nia chočuć pryznać Biełarusaŭ narodam, uvažajučy ich za polskaje plemia, padobna, jak mazury, pamaranie i inš. Sučasny biełaruski adradženski ruch ličać štučnym, za štoś, što tolki ciapier pačynaje krychu kratacca. Prytym paniaćcie Biełarus u niekatorych źliłosia z paniaćciem kamunist. Uvažajuć, što Biełaruski Narod nia maje abapiortaha na historyi prava da samastojnaha žyćcia, nie havaračy ŭžo ab pravie pryrodnym. U Rečypaspalitaj Polskaj nia pryznajuć navat biełaruskich etnahrafičnych terenaŭ. Biełaruskaja mova ŭ razumieńni niekatorych heta „narzecze polskie", kali nia horš, i h. d.

Usie hetyja niedarečnaści było lohka raźbivać. Bo chapała padać tolki niekatoryja najjaskraviejšyja fakty z biełuruskaj minuŭščyny i sučasnaści, kab dakazać błudnaść ichnich pahladaŭ.

Havaračy ab historyi Biełarusaŭ, davoli było ŭspomnić takija rečy, jak fakt, što ŭ Vialikim Kniaźstvie Litoŭskim panavała biełaruskaja kultura, a biełaruski jazyk byŭ uradavym. Prad hetym-ža jašče Biełarusy žyli svaim samastojnym dziaržaŭnym žyćciom, navat pavodle demakratyčnaha ładu. Pabiełarusku havaryŭ Ŭładysłaŭ Jahajła svaju pieršuju karaleŭskuju pramovu ŭ Krakavie i ahułam inačaj nie havaryŭ, jak tolki pabiełarusku. Na biełaruskim jazyku vydany słaŭny pamiatnik prava — Litoŭski Statut. Užo ŭ 1517 h. pieršy biełaruski drukar, słaŭny dr. Francišak Skaryna nadrukavaŭ pabiełarusku Bibliju, katoraja źjaŭlajecca treciaj drukavanaj Biblijaj u Eŭropie, paśla niamieckaj i českaj, a značyć raniej za polskuju. Dy i pieršaja drukarnia biełaruskaja była raniej za polskuju. Biełaruskuju movu ŭvažajuć vučonyja za najčyściejšuju z pasiarod usich słavianskich movaŭ. Biełarusy majuć svaju staruju i novuju adrodžanuju litaraturu.

Pradstaŭlajučy sučasnaść, chapała padać takija danyja, jak fakt razhonu balšavikami ŭ 1917 h. Usiebiełaruskaha Kanhresu, Akt 25 sakavika 1918 h., jakim abviaščałasia Biełaruś volnaj i niezaležnaj dziaržavaj, dy j da siańnia kamunisty ŭ BSSR nia mohuć zusim źnistožyć biełaruskaha adradženskaha nacyjanalnaha ruchu; jak toje tak-ža, što Biełarusy, pakul ustabilizavałasia polskaja ŭłada, patrapili razbudvać rełuju sietku biełaruskich škołaŭ (bolš 500 pačatkavych); mieli 2 vučycielskija seminaryi i 8 himnazijaŭ. Baćki biełarusy tolki ŭ časie 1927-9 h. padali školnych deklaracyjaŭ na 1129 biełaruskich škołaŭ. U 1922 h. Biełarusy vybrali ŭ polski parlamant 14 svaich pradstaŭnikoŭ. Biełaruskija arhanizacyi mieli tysiačy, dziesiatki dy sotni tysiač siabroŭ. Biełarusy i ciapier nie vyrakajucca sami siabie, a nacyjanalnaja śviedamaść pahłyblajecca i h. d.

Usio heta było vialikaj niespadzieŭkaj dla maich dyskutantaŭ, bo hetyja dokazy adnym macham źmiatali ichnija niedarečnaści. Dziela taho ŭ adnych vyklikała heta niedavier, sumliŭ, a ŭ druhich navat złość i łajanku.

Biełaruskuju prablemu „raźviazvali" ŭ dyskusii najpraściejšym sposabam endeki („Stronnictwo Narodowe"). Kazali jany, kali vy nia chočacie padparadkavacca našaj (endeckaj—asymilacyjnaj) palitycy, dyk možacie zaraz vynosicca ŭsie ŭ Saviety abo razam z Žydami ŭ Palestynu, a jak nie, dyk .. Paśla hetaha, jasna, dyskusija pierarvałasia.

## NAČLEŽNIKI

Byŭ užo pozny viečar. Bledny miesiac jasna aśviečvaŭ pole. Ścianoj niedaloka ciahnuŭsia ciomny les. U pavietry źvinieli kamary i dakučali načležnikam, jakija ciapier słuchali dalatajučych hukaŭ pieśni z dvara. Tam dziaŭčaty piajali dažynki.

Koni spakojna chadzili pa sienažaci. Načležniki maŭčali i ab čymś dumali. Maŭčaŭ zadumaŭšysia, jak inšyja, i student, jaki siańnia, vymieńvajučy svajho brata, pryjechaŭ na načleh. Huki pieśni navali niejki sum, tuhu za niečymś svaim dalokim. Prypomnilisia jamu śvietłyja časy z historyi Baćkaŭščyny, mahutnaść biełaruskaha słova ŭ minuŭščynie, a paźniej panskaja zdrada i zapradańnie siabie za pryvilei, pryhon i čorny čas upadku i niaśviedamaści Biełaruskaha Narodu. Iznoŭ Kalinoŭski i inšyja, baraćba ich za vyzvaleńnie i čas adradžeńnia.

Michaś — pierarvaŭ studentu Januk — čuješ, užo varočajucca, kazaŭ jon, z dažynak, skora štoś skončylisia.

— Što-ž i abšarniki ŭžo ahaleli— dakinuŭ Vasil.

— Ničoha, majuć jany jašče za što hulać, kab nam choć tak žyłosia — adkazaŭ Januk.

— Tak, ale i chto-ž vinavat, što im dobra, a nam drenna — havaryŭ ciapier student. — My samyja da hetaha dapuścilisia. Uziać našu volaść, usie sialanie — biełarusy, a što my dla siabie zrabili. Mała čahoś raz damahacca ci štoś raz rabić, a nie darabić, treba damahacca stojka, kab štoś atrymać, treba rabić, kab zrabić. Tolki treba nie adnamu, a ŭ parazumleńni i zhodzie, a tady možna čahoś dabicca. I jak my tak ustroimsia u svajej volaści, druhija—ŭ druhoj i hetak usiudy, u nas budzie siła, buduć z nami ličycca i davać nam toje, čaho nam treba. Darma nichto nam ničoha nia dašć. My musim być ŭ vałasnych samaŭradach, biełaruskaja mova ŭ škole i śviatyniach, u nas musiać być kooperatyvy. Słovam, musim pryjmać čynny ŭdzieł u žyćci.

Jasnaja reč, adrazu ŭsiaho nia zdolejem zrabić, musim rabić pamału i da hetaha pryhatavacca.

Cikava, što ŭ adnej z takich dyskusijaŭ najvastrej vystupiŭ prociŭ Biełarusaŭ, abiassłaŭlajučy ich, pradstaŭnik vilenskaj endecyi, jaki sam, zdajecca, jość biełaruskaha pachodžańnia. Jon, vidać, bačačy svaju błudnuju darohu, chacieŭ svaim vystupleńniem jak-by apraŭdać siabie. Heta jość charakterna dla kožnaha renehata.

Jak ni dziŭna, da biełaruskaje prablemy davoli pavažna adniośsia adzin oeneraviec—absolvent lvoŭskaha ŭniversytetu. (O.N.R. - arhanizacyja jaŭna fašyzujučaja). Jon, dajšoŭšy ŭ dyskusii da pierakanańnia, što Biełarusy ŭsio-ž taki stanoviać asobny narod i daviedaŭšysia ab sučasnym biełaruskim adradženskim ruchu, kazaŭ: usio heta dobra i pryhoža, adnak Biełarusy pavinny vyračysia dumki ab poŭnaj svajaj niezaležnaści i stvaryć „odcień duszy polskiej“. Zatoje Palaki buduć staracca zapeŭnić Biełarusam šyrokuju svabodu: biel. škoły, rodnuju movu ŭ śviatyniach, presu i h. d. Daduć mahčymaść Biełarusam zajmać naroŭni z palakami najvyšejšyja navat uradavyja stanoviščy i inš.

Davialosia spatkacca i z sacyjalistami, katoryja ŭ hutarcy ab Biełarusach cikavilisia bolš sacyjalnym pałažeńniem biełaruskaha narodu, prachodziačy indyferentna nad biełaruskim nacyjanalnym pytańniem.

Naahuł u adnosinach da biełaruskaj prablemy pradstaŭnikoŭ pravych studenckich uhrupavańniaŭ vidać było vyraznuju tendencyju da asymilacyi Biełarusaŭ, u pradstaŭnikoŭ-ža levych — staŭlańnie biełaruskaha nacyjanalnaha pytańnia na zadni plan.

Na zakančeńnie ciśniecca pad piaro pažadańnie dla tych usich studentaŭ palakoŭ, katoryja adnosiacca da biełaruskaje spravy padobna da vyšej apisanych, kab jany ŭ imia ahulnaha dabra bližej paznajomilisia z faktyčnym pałažeńniem Biełarusaŭ, bo-ž niavieda, ihnorancyja, a haloŭna šovinizm da dobraha nie viadzie i prablemy nie raźviazvaje. Z druhoj starany pažadańnie dla biełaruskich studentaŭ, kab jany pry kožnaj mahčymaści infarmavali svaich kalehaŭ palakoŭ ab svaim narodzie. Heta moža pryčynicca da źmieny nastaŭleńnia značnaj častki polskaj studenckaj moładzi da Biełarusaŭ, da realniejšaha pahladu na biełaruskuju prablemu.

Infarmavańnie ab Biełarusach polskich studentaŭ vymahaje taktu, apanavańnia, zrazumieńnia, dobraj voli i inš. Časta možna spatkacca z pastraškami, kpinami, pravakacyjaj, adnak, kali chto patrapić stojka i śmieła baranić svajo rodnaje, z tym najčaściej pačnuć ličycca navat jahonyja vorahi.

Pamima supiarečnaści pahladaŭ, pry raźvitańni niekatoryja kalehi palaki žadali mnie adnak pamysnaj pracy na biełaruskaj nivie, zaznačajučy tolki napoŭ žartam, napoŭ serio, kab mocna nie adryvalisia...

Č. N.

**DA VIEDAMA BIEŁARUSKICH STUDENTAŬ: Biełaruski Studencki Sajuz mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2 (pry drukarni). Dyžury adbyvajucca štodzień ad hadz. 18.30 da 21.**

# Supolnymi siłami da supolnaj mety!

(*Zaklik da biełaruskich studentaŭ*)

Apošnim časam u niekatorych haspadarstvach i narodaŭ adbylisia i adbyvajucca na našych vačach vialikija padziei, jakija jaskrava pakazvajuć, što značyć jednaść, konsolidacyja, scementavańnie i jakija jana daje karyści.

Konsolidacyja patrebna i nam Biełarusam, moža bolš čymsia inšym narodam. Abjednańnie daść nam siłu dzieła baraćby za lepšy byt, za śviatlejšuju budučyniu. Takuju siłu vyrabim sabie ŭ zhodnaj supolnaj pracy dzieła supolnaj našaj mety — dabra i ščaścia svajho narodu.

Praca za lepšy los i śviatlejšuju budučyniu Biełaruskaha Narodu jość haloŭnym abaviazkam biełaruskaje moładzi, a pierad usim studentaŭ.

Dobra sabie heta ŭśviedamlajučy, zvaročvajemsia da ŭsich biełaruskich studentaŭ raśkinutych pa roznych vyšejšych školach, jak u Polščy, tak i zahranicaj, z haračym zaklikam, kab u mieru mahčymaściaŭ naviazvali kantakt i supracoŭnictva z našaj hazetkaj, a pierad usim z Biełaruskim Studenckim Sajuzam u Vilni.

Kožny student-biełarus, dzie-b jon nia byŭ i studyjavaŭ, nie pavinien zabyvacca, što jon źjaŭlajecca siabram vialikaj siamji Biełaruskaha Narodu i što zaŭsiody pavinien ab Im pamiatavać, spaŭniajučy ahulna - narodnyja abaviazki.

**Redakcyjnaja Kalehija „Šl. Biel. Stud“.**

---

Treba, kab ciapier u kožnaj vioscy našaj vakolicy paŭstała svaja biblijatečka, a ludzi z viosak, jakija chočuć pracavać dla dabra ahulnaha, kab zaŭsiody byli z saboj u łučnaści, viedali, što robiać i što pavinny rabić. Nam treba vykarystać usie mahčymaści, treba prystasavacca da tych abstavinaŭ, u jakich znachodzimsia i iści napierad pavodle žyćciovych vymohaŭ.

My pavinny mnoha jašče vučycca i vučyć druhich, mała daje nam škoła, — treba aśvietu zdabyvać samym. Treba, kab jak najbolš našych išło ŭ techničnyja, ziemlarobskija i inšyja školy, a majučy ludziej z takich školaŭ, da taho samyja, vučačysia z knižak, hazet i praktyki, zdolnyja budziem los svoj papraŭlać.

Student zmoŭk. Načležniki pačali piajać marš. Cichim viečaram płyli słovy:

„Rodnyja kličuć nas honi
Chto-ž ustrymaje naš chod?“

I płyli, płyli niedzie daloka pa uzhorkach, dalinach, lasoch, da inšych viosak i chutaroŭ vakolicy i klikali pracavać dla rodnaj spravy.

— Tak Michaś — azvaŭsia Vasil — praca sama nia robicca, a samyja narakańni na biadu heta nia vychad z jaje. Da aśviety patrebny knižki, časapisy i ty, Michaś, pavinien pamahčy nam aśvietu zdabyvać. My parazumiejemsia miž saboj i z moładździu susiednich viosak, kab uskładčynu zdabyć sabie toje, čaho ŭadzinočku nichto zrabić nie patrapić. Tak, budziem rabić — kazaŭ Januk— choć pamału, ale stojka i vytryvała, bo adnak tolki samyja zdolajem palepšyć sabie byt, nichto nam ničoha tak nia dašć...

Spakojna chadzili koni, dzie niedzie tolki katory zaržaŭ, abo pyrchaŭ. — Viečar byŭ cichi, pahodny i pryhožy. — Jasnaja nieba ŭśmichałasia miljonami zorak. Spała vakolica, načležniki ź uściaž havaryli i radzilisia, a recha byccam paŭtarała słovy pieśni:

„Rodnyja kličuć nas honi,
Chto-ž ustrymaje naš chod?“

Vič.

# U studenckim abozie

Ciahnik chutka imknuŭsia da nievialikaha paznanskaha miastečka. Moža jašče nikoli nia byŭ jon taki poŭny studenckaj moładździu i šumam, jak u toj čas. Z kožnaha vahonu lilisia abo pieśni abo žarty i śmiech. Ź zachavańnia ŭžo možna było dahadacca, što ŭsio hetaje bractva jedzie na aboz. A jechali z usich bakoŭ. Abaviazak nie rabiŭ vyniatkaŭ nikomu. Šmat chto na try tydni musiŭ raźvitacca z čułaj apiekaj baćkoŭ, niekatoryja-ž pieraryvali kuracyju ŭ Zakapanym, Truskaŭcy, inšyja-ž ŭreščie pakidali vuzkija pałoski Horadzienščyny ci Paleśsia. Z kožnaha vakna pahladali zacikaŭlenyja tvary na novy mazaviecki krajavid. Chacieli ŭbačyć, što ro bicca, jak vyhladajuć hetyja, šmat dla kaho nieznajomyja, staronki Ale tut, jak i na Paleśsi ci Horadzienščynie, vidnielisia takija samyja pałoski, taksama zmučanyja źniei zhinalisia nad pabialeŭšym žytam, a chudy koń taksama ŭzhoryvaŭ suchuju, piaščanuju ziamlu.

Ureščie stancyja. Nievialiki peron całkom zapoŭniŭsia. Šum biehanina ŭsiudy. Paśla niekalki słoŭ kamandy, i praz niejki čas, usie rezva mašyravali da miesca svajho praznačeńnia, u baraki, za miastečka. Z usich vakon, dźviarej, hankaŭ minanych vulicaŭ pahladali cikavyja tvary žycharoŭ.

U abozie pryvitała kiraŭnictva. U mocnych słovach pramoŭcaŭ čuŭsia zaklik da pracy, dyscypliny, i kab usie zachavali hodnaść, adpaviednuju pavahu i pašanu da ludziej i h. d. Miny słuchačoŭ byli ŭžo pamučanyja. Ale inauhuracyja chutka končyłasia.

Prajšło niekalki dzion narmalnaje pracy i ŭčaśniki pačali znajomicca bližej, dy zžyvacca. Jak nia dziŭna, u abozie panavała poŭnaja adsutnaść zacikaŭleńnia ŭsim pavažniejšym. Bolš pryciahvajučymi byli hulni, tavaryskija spatkańni i tancy, da jakich rvalisia aboźniki. Pa ŭsim-ža časta poznymi načami niaślisia huki studenckaha himnu „Gaudeamus igitur“...

— — — — — — — —

Była ŭ abozie i hrupa biełarusaŭ. Nia šmat, — bo ŭsiaho niekalki asob. Ale niejak dziŭna adroźnivalisia jany ad anułu, asabliva ŭ samym zachavańni i adnosinach da pracy. Pavažnyja, zdyscyplinavanyja — kary ci nahany nia prychodziłasia čuć nivodnamu. Tolki časam dziŭna vyhladała niekatoraja adasoblenaść ad reŝty. Pieravažna prabyvali jany ŭ tavarystvie ukraincaŭ, jakich tak-ža była hrupa. Biełarusy i ukraincy dobra siabie razumieli. Naahuł-ža časta vyčuvałasia peŭnaje nastaŭleńnie... Tym bolš, što pachodžańnia i nacyjanalnaści nichto nidzie ŭ abozie z biełarusaŭ i ukraincaŭ nia skryvaŭ. U barakach, pry pracy, na himnastycy, mova, a navat i pieśnia biełaruskaja mocna razlahałasia. Adzin z kiraŭnikoŭ taksama byŭ biełarus i miła z nami raźvitvaŭsia kažučy:

— Bvvajcie, chłopcy! Ciešusie, što nia pryšłosia čyrvanieć... Vy musicie...

— — — — — — — — —

Try tydni minuła chutka. Na dyjšoŭ dzień vyjezdu. Z dziŭnym nastrojem pakidali my aboz. Varočalisia iznoŭ u svaju staronku, da svaje štodziennaje pracy, da svaich kłopataŭ. Viartalisia moža navat krychu inšymi, čym jechali tudy... Minali jzroŭ tyja samyja pałoski, tych samych zapracavanych ludziej. Prabiahali roznyja dumki. — Jak-ža chacielasia-b, kab heta ŭsio mahło adbyvacca ŭ inšych abstavinach, u inšaj atmosfery.

Vil.

# Inauhuracyjny Viečar u Bieł. Stud. Sajuzie

Pa troch-miesiačnych kanikułach, a časta paśla pracy z łapataj ŭ rukach pobač z rabotnikami pry darohach i kanalizacyjach, dziela zdabyćcia mahčymaściaŭ na dalejšyja studyi, biełaruskaje studenctva viarnułasia ŭ universyteckija mury, kab dalej zdabyvać navuku. Viarnułasia, kab jznoŭ, pieramahajučy niaraz vialikija niedastatki i niavyhody, iści napierad. Nie adnamu z biełaruskich studentaŭ prychodzicca chadzić z łapataj na kanalizacyjnyja raboty i ŭ časie studyjaŭ, u časie kali ŭ universytecie poŭnaj paraj iduć vykłady. Što-ž, treba žyć i za navuku treba płacić, nia majučy-ž hrošaŭ i padtrymańnia prymušany samy zdabyvać ich ciažkoj pracaj. Nastroj adnak badziory. Bieł. studenctva znachodzić jšče čas i dla pracy na biełaruskaj adradženskaj nivie.

***

U subotu 22.X.38 vialikaj hramadoj sabrałasia biełaruskaje studenctva ŭ Vilni, u VI-taj zali hałoŭnaha budynku universytetu na Inauhuracyjny Viečar dziela ŭračystaha raspačaćcia pracy Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu ŭ novym 1938-39 školnym hodzie. Na ŭračystaść hetu prybyli taksama p. Kuratar Sajuzu Praf. E. Koschmieder, pradstaŭniki ad starejšaha bieł. hramadzianstva i ad studentaŭ Ukraincaŭ. Viečar adčyniŭ karotkaj pramovaj staršynia B.S.S. Adam Dasiukievič, padčyrkivajučy ciažkaje pałažeńnie Biełaruskaha Narodu i zaklikajučy da pracy dla Jaho dabra. Paśla hołas addaŭ siabru BSS J. Jaroŝcy, jaki pračytaŭ referat na temu „Historyja biełaruskaha studenckaha ruchu“.

Prelehient vykazaŭ u svaim referacie, jakuju rolu adyjhrali studenty ŭ adradžeńni Biełaruskaha Narodu i jakija zadańni stajać pierad ciapierašnim studenctvam. Havoračy ab siańniašnim časie, asablivuju ŭvahu źviarnuŭ prelehient na toje, što ciapierašniaje pałažeńnie dla Biełarusaŭ źjaŭlajecca moža najciažejšym, čym kali-niebudź u minuŭŝčynie. Vymahaje heta ad studenctva jasnaj i zdecydavanaj pazycyi i vialikaj achviarnaj pracy. U ciažkim-ža pałažeńni, kali zdajecca, što ŭsio sprysiahajecca suproć nas, biełaruskaje studenctva pavinna šukać sabie apory, padtrymańnia, ŭ biełaruskaj minuŭŝčynie, u śviatłanych postaciach Vialikich Synoŭ našaje ziamli, jak Kalinoŭskaha, Hryniavickaha, Ciotki i inšych. Słavami „praca i viera pieramoža ŭsio“ zakončyŭ kaleha Jaroška svoj referat, pad buru vopleskaŭ prysutnaje moładzi.

Na zakančeńnie adbylisia deklamacyi tvoraŭ biełaruskich paetaŭ. Pryhoža deklamavali kal. V. Luścibar vierš Michasia Mašary i kalež. V. Čarneckaja vierš Kanstancyi Bujło, a paśla M. Tank pračytaŭ adryvak iz svaje novaje paemy.

Inauhuracyjny Viečar skončyŭsia. Pamału puściela universyteckaja zala i kalidory. Hrupkami biełaruskaje studenctva pakidała Universytet, śviedamaje, što čakajuć jaho vialikija zadańni... i nadzieja harotnaha Narodu.

**V. Jermałkovič.**

**Kožny student biełarus U. S. B. pavinien być siabram Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu!**